# СВАБОДА

№ 13 лістапад 1993 г.

Кошт 30 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар **Ігар ГЕРМЯНЧУК**

Заснавальнік **Павал ЖУК**

Выдавец **«Газэта СВАБОДА», Ltd.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
**220088, Менск, вул.Іванаўская, 56**


# Кебич жил! Кебич жив!.. Кебіч будзе жыць?

**Трэці тыдзень крэсла пад Вячаславам Кебічам працягвае хістацца. Упершыню за тры з паловаю гады свайго прэм'ерства ён пачувае сябе гэтак няўпэўнена. Здараецца, што Старшыня Саўміну не вытрымлівае і пачынае крычаць зь мейсца: «Хлусьня!» (падчас выступленьня дэпутата В.Голубева). А то выходзіць на трыбуну і заяўляе ў адказ на рэпліку дэпутата В.Какоўкі: «А калі нехта хоча паглядзець ці ёсьць у мяне хвост, дык хай прыйдзе да мяне ў габінэт — я пакажу...»**

Пасьля выступленьня Кебіча з дакладам многія назіральнікі меркавалі, што «пара выпушчаная» і ўсё пойдзе далей па саўмінаўскім сцэнары. Аднак два дні парляманцкіх дэбатаў (па дакладах С.Шушкевіча і В.Кебіча) паказалі, што ўраду ня ўдасца гэтак проста «закрыць пытаньне», як гэта рабілася на ўсіх папярэдніх сэсіях. Нават некаторыя дэпутаты зь вернай Кебічу групы «Беларусь» вымушаныя былі прызнаць адсутнасьць ва ўрада хоць якой-небудзь праграмы выйсьця з крызысу.

Адзін з дэпутатаў (былы першы сакратар райкаму) прызнаўся ў кулуарах: «Усе разумеюць, што Кебіч ня той чалавек, які здольны сёньня кіраваць. Але адпраўляць яго ў адстаўку надта рызыкоўна, бо гэта будзе першым рэальным крокам набліжэньня Апазыцыі да ўлады. А ў прынцыпе я згодны, што Кебіча трэба было б замяніць».

Карацей, яны разумеюць становішча так: адпраўляць Кебіча — гэта значыць секчы сук пад сабою. Праблема ўласнага выратаваньня засланіла ўсё астатняе. Аднак крызысная сытуацыя ў эканоміцы вымушае іх шукаць нейкае выйсьце. Таму і першы, і другі, і трэці праект пастановы не былі прынятыя нават «за аснову», што вельмі засмуціла ўрад. Гэта паказала, што Кебіч ня мае цяпер гарантаванай большасьці ў ВС — не хапае дзесяці-дваццаці галасоў. Пытаньне завісла.

Відавочна, што Апазыцыя пры любых намаганьнях ня здолее пры сёньняшняй раскладцы сілаў сабраць большасьць галасоў за адстаўку Кебіча. Але пакуль «пытаньне не закрытае», любая нечаканасьць можа рэзка зьмяніць настроі сярод дэпутацкай большасьці. Акрамя таго, трывожна маўчыць вуліца, загнаная ў кут цэнамі, інфляцыяй ды ў дадатак яшчэ і холадам у дамах. Таму цяжка рабіць якія-небудзь прагнозы адносна таго, колькі яшчэ здолее пратрымацца гэты ўрад (да канца месяца, да канца года?..) Ясна адно: яшчэ троху пратрымаецца.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**



*Здымак на памяць*

# Шыркоўскі і Ягораў заклікаюць дэпутатаў разабрацца з Данілавым

**20 лістапада Старшыня КДБ Э.Шыркоўскі і міністр унутраных спраў Ул.Ягораў накіравалі на імя С.Шушкевіча і В.Кебіча ліст «Аб некаторых пытаньнях дзяржаўнага ўладкаваньня Рэспублікі Беларусь». 23 лістапада гэты дакумэнт быў перададзены на сэсію ВС, аднак сакратарыят рабіў усё магчымае, каб дэпутаты яго не атрымалі. Друкуем дакумэнт амаль цалкам.**

Камітэт Дзяржаўнай бясьпекі на працягу 1992—1993 гг. шматразова інфармаваў вышэйшыя органы ўлады і кіраўніцтва рэспублікі аб негатыўных працэсах ва Узброеных Сілах, што выкліканыя пасьпешлівасьцю пры іх рэфармаваньні, аднак унесеныя прапановы пакідаліся без увагі.

Як паказаў час, памылковым рашэньнем было стварэньне самастойных Пагранічных войскаў, ды яшчэ з Галоўным упраўленьнем, Чыгуначных і войскаў Грамадзянскай абароны. Гэта прывяло да беспадстаўных калясальных фінансавых і матар'яльных затратаў дзяржаўных сродкаў.

Падаецца, што ў практыцы кадравай палітыкі Узброеных Сілаў сёньня вырашальнымі крытэрыямі пры назначэньні на пасады становяцца асабістая адданасьць, наяўнасьць блізкіх сувязяў у пэўных урадавых колах. Гэта прывяло да бясконцых перастановак і пераназначэньняў камандных кадраў. Так, толькі за паўтара гады ў Міністэрстве абароны зьмянілася чатыры намесьнікі міністра, усе камандуючыя агульнавайсковых і танкавых арміяў, начальнікі іх штабаў, камандуючы СПА. Аналягічная сытуацыя склалася з генэрал-палкоўнікам П.Р.Чавусам, якога падбіралі на пасаду міністра і запрасілі ў рэспубліку як военачальніка, што мае вялікі практычны досьвед кіраваньня войскам. А сёньня рашэньне праягонае вызваленьне ад пасады

*(Працяг на 4-й стар.)*

## ФАКТ ЁСЬЦЬ ФАКТ

**МІНА** Менскі страйкавы камітэт пачаў аднаўляць свае структуры на прадпрыемствах. Тое самае адбываецца ў Салігорску, Оршы і іншых гарадох Беларусі. Лідар Свабодных прафсаюзаў Генадзь Быкаў лічыць сытуацыю ў рабочых камітэтах "выбуховай". Ён не выключае, што рабочыя зноў могуць выступіць, як гэта было ў красавіку 1991г. "Таму будзе лепш, калі адновяцца страйкамы, каб пратэст разьвіваўся цывілізаваным шляхам, а не ператварыўся ў бунт".

**НЕДАТЫКАЛЬНАСЬЦЬ** 1 сьнежня зноў пачне працаваць XIII сэсія Менскага гарсавета. У першы ж дзень магчыма будзе разгледжана прадстаўленьне Генэральнага пракурора аб пазбаўленьні дэпутацкай недатыкальнасьці і прыцягненьні да крымінальнай адказнасьці дэпутата Менскага гарсавета М.Місуны. Былы першы сакратар гаркаму КПБ (а цяпер «круты» бізнэсмэн) абвінавачваецца ў «раскраданьні грамадзкай маёмасьці ў асабліва буйных памерах».

**СЬВЯТЫНІ** У Гарадзенскай вобласьці пачаўся збор ахвяраваньняў на рэстаўрацыю касьцёла і кляштара ў райцэнтры Іўе. Сёньня на Гарадзеншчыне будуюцца 12 касьцёлаў і 7 цэркваў. Падрыхтаваны праект пабудовы мячэці на ўскраіне Горадні.

**ТЭОЛЯГІ** Як паведаміла гарадзенская газэта «Пагоня», пры біскупскай курыі ў Горадні арганізаваны тэалягічны інстытут. 137 слухачоў, прычым ня толькі каталікі, пасьля трохгадовага курсу змогуць выкладаць навуку рэлігіі пры касьцёлах, а таксама ў дзіцячых садках і школах. Заняткі будуць праходзіць двойчы на месяц, па тры дні запар. Выкладчыкі, а іх 17 асобаў, наязджацьмуць з Польшчы. Рэктарам інстытуту стаў прафэсар Люблінскага каталіцкага ўнівэрсытэту Станіслаў Дзям'ян.

**СПАТКАНЬНІ** У суботу 4 сьнежня ў Літаратурным музэі М.Багдановіча адбудзецца сустрэча з прадстаўнікамі рэдакцыі віленскай беларускай газэты «Наша Ніва». Пачатак а 18 гадзіне.

# У забойстве Арцымені падазраюць «брыльянтавую руку»

**Два месяцы мінула, як загінуў старшыня Гарадзенскага аблвыканкаму Д. Арцыменя. Аднак, хоць на пошукі забойцы народнага дэпутата былі кінутыя лепшыя дэтэктывы Беларусі і сілы КДБ, сьледзтва тым ня менш пакуль ня здолела знайсьці забойцаў гарадзенскага губэрнатара.**

Праўда, вэрсіяў адносна магчымых забойцаў сп.Арцымені, у тым ліку і «непалітычных», у сьледзтва паўнютка. Вось толькі адна зь іх.

З крыніцаў, блізкіх да Часовай парляманцкай камісіі, якую ўзначальвае непрымірымы барацьбіт з карупцыяй А.Лукашэнка, нам сталі вядомыя некаторыя падрабязнасьці расьсьледваньня гэтай справы. У прыватнасьці, матар'ялы сьледзтва паказваюць, што прыкладна за тыдзень да забойства Арцымені ягоная жонка і малодшы сын Дзьмітрый былі затрыманыя на тэрыторыі Польшчы тамтэйшымі супрацоўнікамі па барацьбе з тэрарызмам. Пры вобыску ў асабістай аўтамашыне Арцыменяў была знойдзеная вялікая колькасьць дыямэнтаў ды алмазаў.

Паводле вэрсіі сьледзтва гэты інцыдэнт мог быць па-майстэрску інсьпіраваны самімі кантрабандыстамі, бо каштоўнасьці нібыта належалі кампаньёну Галіны Арцымені па залатым бізнэсе, маскоўскаму камэрсанту, былому супрацоўніку ЦК КПСС і Дэмпартыі Расеі Георгію Хацанкову. Такім чынам, мяркуюць сьледчыя, сямейства Арцыменяў, мякка кажучы, абвяло вакол пальца сп.Хацанкова, пакінуўшы сабе пэўную частку каштоўнасьцяў, сьпісаных на рахунак няўдалай кантрабанды. Натуральна, падмануты такім бессаромным спосабам кампаньён мог і сапраўды жорстка адпомсьціць сваім крыўдзіцелям. Вось толькі чаму ў якасьці ахвяры ён выбраў усяго вінаватага сваіх бедаў, сьледзтва яшчэ ня высьветліла.

Таму мы вырашылі самастойна завяршыць адпрацоўку гэтай вэрсіі і зьвязаліся з Георгіем Хацанковым, які жыве ў Маскве. Перш-наперш Георгій Фёдаравіч адзначыў, што навогул дакладна ня ведае, ці была сапраўды затрыманая Галіна Апанасаўна Арцыменя з сынам у Польшчы. Па сьведчаньні Хацанкова, у ювэлірнай краме «Сьвяты Георгій», якую ўзначальвае спадарыня Арцыменя, сапраўды мелася на той час каштоўнасьцяў дзесьці на 200 зь лішкам мільёнаў расейскіх рублёў, аднак усе гэтыя дыямэнты і алмазы, як запэўніў Хацанкоў, яму ўжо не належалі. Ён зазначыў, што навогул спыніў усю сваю камэрцыйную дзейнасьць на тэрыторыі Беларусі, бо, маўляў, умовы для вядзеньня бізнэсу тут вельмі неспрыяльныя.

У размове з нашым карэспандэнтам Георгій Фёдаравіч адзначыў, што за апошні час праз бязглуздасьць нашай бюракратычнае сыстэмы страціў на Беларусі каля 1 млн. даляраў і, пакуль ля ўлады на Беларусі будуць цяперашнія кіраўнікі, ён сюды ня вернецца. «Вашыя балваны зрабілі ўсё, каб я спыніў тут свой бізнэс, і каму ад гэтага стала горш? Толькі народу вашае дзяржавы. Я ж у мінулым годзе ўвёз сюды золата на 500 млн. рублёў. Я інвэстыцыі зьбіраўся ўкладваць у вашу эканоміку. У рэшце рэшт, я хацеў будаваць жыльлё для перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны. А замест спрыяльных адносінаў з боку кіраўніцтва рэспублікі мне, наадварот, чынілі ўсялякія бюракратычныя перашкоды, вашыя спэцслужбы не давалі мне спакою, цікавячыся маімі прыбыткамі. Так, я мільярдэр. Але чамусьці ў Расеі гэта выклікае павагу, а ў вас падазронасьць», — рэзюмаваў сп. Хацанкоў.

Што датычыць узаемаадносінаў зь сямействам Арцыменяў, то Георгій Фёдаравіч даў даволі добрую ацэнку дзелавым якасьцям нябожчыка. «Зь ім усе пытаньні вырашыліся вельмі хутка, і шкада, што такога чалавека ўжо няма», — сказаў Хацанкоў пра Арцыменю.

А вось на адрас Галіны Арцымені сп.Хацанкоў выказаў значна менш кампліментаў: «Яна трапіла да мяне ў кампаньёны выпадкова (па рэкамэндацыі аднаго знаёмага) і, апрача галоўнога болю, нічога мне не прынесла».

«Навогул, я чысты перад законам і дастаткова багаты чалавек. У мяне няма патрэбы займацца якімі-небудзь сумніцельнымі ці бруднымі справамі», — падвёў рысу ў нашай гаворцы Георгій Хацанкоў.

Наколькі праўдзівымі і шчырымі былі словы маскоўскага камэрсанта, відаць, дасьць дакладны адказ толькі сьледзтва, калі яно, вядома, ня зойдзе ў тупік. Дарэчы, па справядлівасьці кажучы, дэтэктывам зараз ня вельмі проста пераправерыць усе магчымыя камэрцыйныя варыянты, якія маглі стаць прычынаю забойства. Бо аказалася, што патаемныя дзелавыя сувязі сямейства Арцыменяў з камэрцыйнымі структурамі былі настолькі шматлікімі, што толькі пасьля сьмерці губэрнатара мясцовыя праваахоўныя органы атрымалі магчымасьць як сьлед падступіцца да тутэйшых «акулаў». «Раней гэта было табу», — зазначыў у размове з нашым карэспандэнтам адзін з супрацоўнікаў гарадзенскай міліцыі.

**Алесь ВАЛЮЖЭНІЧ**

**Гэты здымак быў зроблены на мітынгу «Народ супраць карупцыі», які адбыўся ў траўні г.г. у Менску каля Дома афіцэраў па ініцыятыве БНФ і Свабодных прафсаюзаў. Наўрад ці хто з удзельнікаў мітынгу думаў тады, што праз чатыры месяцы «першы чырвоны капіталіст» трагічна загіне...**

*Здымак з архіва СВАБОДЫ*

## Галіна Арцыменя дала інтэрвію

**Беластоцкая газэта *Kurjer porаnny* у апошнім кастрычніцкім нумары надрукавала карэспандэнцыю з Горадні пад загалоўкам «Палітычнае забойства ці ахвяра мафіі?», прысьвечаную забойству Д.Арцымені.**

Журналістка з *Kurjera porannego* пабывала ва ўдавы Галіны Арцымені на вуліцы Астроўскага, 12. Яна адзначае, што дом вялікі, але драўляны, напэўна, яшчэ за польскага часу. Адзінай адзнакай дабрабыту зьяўляецца спадарожнікавая антэна, а ў сярэдзіне ўсё абстаўлена сьціпла. Словы «журналістка з Польшчы», нібы пароль, шырока расчынілі ёй дзьверы ў дом. Удава расказвае, што сама родам з-пад Беластоку, маці была полькай, бацька — беларус. У Горадню яны пераехалі ў 1946 г. Г.Арцыменя скардзіцца, што дагэтуль ніводзін журналіст яе не наведаў. Яна, аднак, старанна зьбірае ўсе газэтныя выразкі аб забойстве мужа і будзе судзіцца з газэтамі, не пашкадуе дзеля гэтага грошай.

Гаворачы пра паходжаньне мільёнаў, знойдзеных у сэйфе, яна цьвердзіць, што гэта ўсяго толькі ашчаджэньні ўсіх членаў сям'і. Што ж датычыць ювэлірнай крамы, дык да каштоўнасьцяў яна дачыненьня ня мае — усё належыць Расейскай дзяржаве, а яна сама папросту працуе дырэктарам.

Г.Арцыменя паведаміла яшчэ й такую акалічнасьць: 22 верасьня яны з мужам павінны былі ехаць у Францыю, але за дзень да гэтага яго забілі.

Беластоцкая журналістка таксама адзначае, што грамадзкая думка ў Горадні нядобразычліва ставіцца да нябожчыка.

**С.М.**

# Яшчэ адна вэрсія: рэлігійна-этнічная

Рэдакцыя нядаўна атрымала ліст зь Беластоку ад ананімнага «Падляшука». Вось што ён піша: «... Палянізацыйнаму патопу й адважыўся супраціўіцца нябожчык Дзьмітрый Канстанцінавіч Арцыменя — шчыры прыяцель праваслаўных беларусаў Беласточчыны (беларусы-каталікі тут усе падаліся ў палякі, або, дакладней, ксяндзы іх загналі ў палякі). Арцыменя з асаблівай пашанай ставіўся да праваслаўнай царквы, яе духавенства і вернікаў».

Далей шчыры прыхільнік нябожчыка з захапленьнем апавядае, як той «выдатна спрыяў» перадачы праваслаўнай царкве ўніяцкага кляштару ў Горадні, як дапамог будаўнічымі матар'яламі ў рамоньце царквы ў Супрасьлі (Беласточчына), як, нарэшце, «у мінулым годзе разам з тысячамі паломнікаў ён ішоў з Горадні за мошчамі Сьвятога Мучаніка Дзіцяці Гаўрыіла, маліўся й прыкладваўся да іх, даючы гэткім чынам прыклад і малому, і старому, паказваў сваімі паводзінамі, што савецкія людзі цалкам яшчэ не зьдзічэлі».

Аўтар гэтага ліста піша, што 22-га верасьня, напярэдадні пахаваньня Арцымені, у Беластоку ў Мікалаеўскім саборы два мясцовыя архіяпіскапы і тры япіскапы разам з гарадзенска-ваўкавыскім архіяпіскапам Валяньцінам споўнілі малітву за «новапрастаўленага Дзьмітрыя» і «тысячы прысутных на малебне плакалі, плакалі, як па самым блізкім, родным чалавеку».

Уражаньне ад ліста Падляшука застаецца такое, што нябожчык, лічы, варты кананізацыі. Магчыма, канечне, што аўтар папросту начытаўся старажытных жыцій і трохі прыхарошыў асобу Арцымені ды падзеі, зь ім зьвязаныя. Аднак усё адно ўражвае прынцыпова рознае стаўленьне да нябожчыка па абодва бакі мяжы. Нельга ж не лічыцца і зь меркаваньнем «Беластаччаніна», які напісаў у *Pszeglądzie Pravosławnym*: «Загінуў наш лепшы Прыяцель Дзьмітрый Канстанцінавіч Арцыменя».

У мяне няма жаданьня спрачацца з Падляшуком, я толькі хачу паразважаць над гэтай справай. Адзін з аспэктаў аналізу — рэлігійнасьць Арцымені. Да 59 гадоў жыцьця (да жніўня 1991 г.) нябожчык быў шчырым камуністам, а таму, трэба думаць, ня мог адначасова верыць і ў існаваньне Бога, і ў марксысцкія догмы. Іншая рэч — падсьвядомае жаданьне пакаяцца, замаліць нейкія свае грахі...

Як нам вядома, летась улетку Арцыменя нават паспавядаўся ў мітрапаліта Філарэта, які прыехаў у Горадню адмыслова дзеля таго, каб пашлюбіць малодшага сына Арцымені. Дарэчы, мясцовыя вернікі паставіліся да гэтага факту з насьцярогаю, бо лічылі, што духоўны сан Філарэта не дазваляе яму даваць шлюбы. Што ж тады прымусіла мітрапаліта гэта зрабіць? Ці не было тое падзякай Арцыменю за базыльянскі кляштар, адным махам перададзены праваслаўнай царкве?

Філарэт даслаў спачуваньне з прычыны гвалтоўнай сьмерці Арцымені. Кажуць, што мітрапаліт Філарэт прыехаў бы і на пахаваньне (хоць і быў тады хворы), калі б адпяваньне адбывалася ў храме. Малебен у царкве, зрэшты, быў, але толькі на дзевяты дзень пасьля забойства. Адпявалі ж нябожчыка дома. А труну, вынесшы з аблвыканкаму, паставілі пад помнікам Леніну, дзе і правялі жалобны мітынг. Потым адбылося шэсьце па вуліцах горада, прычым за труною несьлі ня крыж, а кантовы слупок, праўда, бяз звыклай зоркі...

Ніхто ня будзе спрачацца з тым, што сёньня праваслаўная царква на Беларусі — моцны ідэалягічны інстытут Расейскай праваслаўнай царквы, што заўзята праводзіць прарасейскую палітыку. Таму памыляецца Падляшук, калі атаясамлівае праваслаўе Арцымені зь беларушчынай. Прыблізна ў той час, калі згодна зь ельцынскімі ўказамі ў Маскве выкідалі на вуліцу з колішніх царкоўных будынкаў аркэстровыя калектывы, тэатральныя студыі, музэйныя экспазыцыі, тое самае адбывалася і ў Горадні. СВАБОДА паведамляла, як увесну 1992 г. дзякуючы Арцыменю гвалтам выгналі з базыльянскага кляштара Дзяржаўны музэй гісторыі рэлігіі — моцны асяродак беларушчыны ў Горадні. Супраць гэткай пасьпешлівасьці былі і гарадзкія ўлады, і камісія ВС па спадчыне, і Міністэрства культуры. Але марна. Якраз тады адбылося збліжэньне Арцымені з калегам па ВС Філарэтам, якога на Беларусі ніхто ня лічыць змагаром за беларушчыну... Цікава, што ўдзел у «штурме» кляштара бралі і праваслаўныя вернікі зь Беласточчыны. Прычым усё гэта суправаджалася тады заклікамі «белорусскому языку не быть в святом храме!», паколькі на базыльянскі храм прэтэндавала таксама ўніяцкая абшчына, якую абласныя ўлады доўгі час адмаўляліся рэгістраваць, хоць гарвыканкам дазвол на гэта даў адразу.

Яшчэ крыху гісторыі. У 1990г. падчас выбараў у ВС БССР Арцыменя ў Астравецкім раёне, дзе ён раней працаваў першым сакратаром райкаму КПБ, перамог свайго праціўніка — аднаго зь беларускіх адраджэнцаў прафэсара А.Мальдзіса. Прычым, «на пачатку выбараў агітацыю за Арцыменю вялі грамадзяне Польскай Рэспублікі — члены ансамбля з Познані, якія распаўсюджвалі лістоўкі на польскай мове» — так пісаў у свой час *ЛіМ*. Можна, аказваецца, спачатку шукаць сяброў сярод палякаў, а потым станавіцца шчырым праваслаўным, а значыцца — паводле Падляшука — прыяцелем беларусаў, прычым чамусьці менавіта беластоцкіх.

Безумоўна, усе гэтыя рэлігійна-этнічныя справы — рэч вартая ўвагі, але як жа быць тады зь вялікімі грашыма, знойдзенымі ў службовым сэйфе Арцымені? З фактамі трэба лічыцца! Аднак у Падляшука і тут падрыхтаваны адказ. Ён лічыць паведамленьне пра 30 тыс. даляраў «ілгунствам палянафільскага беларускага друку», бо, на ягоную думку, «нябожчык Арцыменя да наіўных людзей не належаў і калі б такія грошы меў, то ў службовым сэйфе іх не трымаў бы, а знайшоў для іх іншае сховішча».

Каму ж у такім разе выгодная «мафіёзная» вэрсія забойства Арцымені, калі яна, як піша «шчыры беларус» зь Беласточчыны, «пашыта тоўстымі ніткамі»? Не дасьцё веры, Падляшук перакананы, што гэта «супрацоўнічаючыя з польскай мафіяй работнічкі НКВД ці, як цяпер яно называецца, КДБ, пазычыўшы зь Дзяржбанку, падкінулі ў службовы сэйф тыя даляры, маркі ды фунты, каб такім чынам замесьці сьляды, не зачапіць сваіх польскіх мацадаўцаў ды хуценька справіцца са справай і падставіць грудзі пад мэдалі ці ордэны С.С.Шушкевічу ці В.Ф.Кебічу — таксама палякам».

Вось такая нечаканая вэрсія забойства ўзьнікла ў Беластоку.

**Аляксандр ПАЦЭВІЧ**

Рамуальдас ОЗАЛАС

# Паміж Усходам і Захадам патрэбна “трэцяя сіла”

Узаемадачыненьні Летувы і Украіны — адзін з найважнейшых чыньнікаў у фармаваньні Эўропы XXI ст. Адзіным наш кантынэнт можа быць толькі тады, калі паміж Усходам і Захадам будзе ляжаць Цэнтральная Эўропа — трэці геапалітычны рэгіён Эўропы, які толькі і зможа зрабіць адносіны між Усходам і Захадам больш далікатнымі. Аніякія ідэі, аніякія дамовы ня змогуць паяднаць дзьве супрацьлеглыя сілы. Іх зможа хіба толькі нэўтралізаваць трэцяя — тая, што або знаходзіцца недзе ў прасторы панад імі, або фізычна ўклінілася ў прастору паміж імі. Так было зь Нямеччынаю і Летувой, пакуль між імі не ўсталявалася Польшча. Так будзе і зь Нямеччынаю ды Расеяй, пакуль між імі ня зойме мейсца Цэнтральная Эўропа.

Мы ведаем, што такое Заходняя Эўропа. Паціху пачынае высьвятляцца, што такое Усходняя Эўропа: гэта Расея без яе азыяцкай часткі і асабліва — без азыяцкага мэнталітэту.А што ж такое Цэнтральная Эўропа?

Гэта — шырокая група краінаў, што доўгі час знаходзіліся пад уплывам Захаду або Усходу Эўропы, а часьцяком і ў непасрэднай залежнасьці ад іх. Гэта тэрыторыі, што праляглі праз усю Эўропу ад Фінляндыі на поўначы да Грэцыі на поўдні. На гэтай паласе даволі выразна выдзяляецца заходняя частка з Польшчаю, Чэхіяй, Славакіяй, Вугоршчынай, Румыніяй, краінамі былой Югаславіі дый Грэцыяй, што ўвесь час знаходзілася пад уплывам і апекаю Захаду, а таксама ўсходняя частка — з Украінай, Беларусьсю, краінамі Балтыі і Фінляндыяй, якія яшчэ і сёньня адчуваюць на сабе моцнае ўзьдзеяньне Расеі. Ступень іхняй залежнасьці ад Расеі была і застаецца вельмі неаднолькаваю, аднак няма сумневу, што ўсе яны, і нават Беларусь, хацелі б вырвацца з-пад расейскай апекі.

Ці ж не зьяўляецца гэта дастатковым падмуркам еднасьці згаданых краінаў ды наколькі рэальнае стварэньне якой-кольвечы садружнасьці ў Цэнтральнай Эўропе?

У прынцыпе такое суіснаваньне магчымае. Галоўная перадумова — духоўная блізкасьць гэтых народаў, падмацаваная каталіцкім мэнталітэтам. Праваслаўе Украіны і Беларусі ў духоўным пляне схіляе іх у бок Расеі, аднак культурная спадчына Кіеўскай Русі на Украіне і Вялікага княства Літоўскага на Беларусі ды гістарычная памяць абодвух народаў выдзяляюць гэтыя краіны з прасторы расейскага праваслаўя, далучаючы іх да Цэнтральнай Эўропы як да прасторы памежных сытуацыяў ды асаблівага культурнага лёсу.

Калі Украіна сапраўды хоча быць сама сабою, то ня мае выбару і мусіць знайсьці ў сабе сілы выстаяць перад Расеяй. Сёньня надышоў вырашальны момант: зможа Украіна пераадолець эканамічны ўціск Расеі і захаваць «асаблівую пазыцыю» (як пра гэта гаварылася падчас падпісаньня ў Маскве новай эканамічнай дамовы СНД) ці пад націскам росту цэнаў ды спаду вытворчасьці зьмірыцца і ўкленчыць у новым саюзе, які, бадай, мала будзе адрозьнівацца ад папярэдняга.

Сувязі Летувы і Украіны немагчыма разглядаць без уліку польскага фактару. І тут становішча дзяржаваў падобнае: абедзьве маюць рэгіёны, да якіх пэўныя сілы Польшчы выказваюць асаблівую ўвагу. Супрацоўніцтва Летувы і Украіны магло б стымуляваць вырашэньне праблемаў польскіх нацыянальных меншасьцяў у абедзьвюх краінах, зрабіць свой унёсак у балянс стабільнасьці ў Цэнтральнай Эўропе. Польшча, як жартуюць самі палякі, баіцца ўсіх суседзяў, не баіцца толькі Летувы. Варта пастарацца, каб Польшча ацаніла і сяброў Летувы.

Кажучы сур'ёзна, сяброўства Украіны і Летувы — адзін з найважнейшых чыньнікаў стварэньня доўгатэрміновых добрасуседзкіх адносінаў з Польшчаю. У гэтым сэнсе адзіным гарантам для Летувы застаецца Украіна: Латвія ды Эстонія тут нам слабыя памочнікі. А без добрасуседзтва Летувы ды Польшчы немагчымая ўся Цэнтральная Эўропа, безь якой, здаецца, вырвацца з-пад расейскае апекі няшмат шанцаў мае і Украіна. Такім чынам, супадзеньня зацікаўленьняў тут нашмат больш, чымся несупадзеньняў. А якім чынам трохкутнік Летува-Украіна-Польшча зможа замацавацца канкрэтна — гэта ўжо пытаньне не геапалітыкі, а палітычнае будзённасьці.

Адзін з асноўных напрамкаў інтэграцыі, ініцыятарам якога зьяўляецца Украіна і які падтрымлівае Беларусь, — гэта ідэі і праекты газа- і нафтаправодаў з азыяцкіх краінаў. Найсур'ёзнай увагі заслугоўвае думка пра эўрапейскую магістраль Поўнач—Поўдзень, якая, магчыма, магла б паўстаць з магістралі Via Baltica і злучыць Гэльсінкі з Афінамі. Аднак найбольш фундаментальным рашэньнем быў бы пастаянны палітычны кансультатыўны сход краін Цэнтральнай Эўропы.

Канечне, супраць такога сходу рэзка можа паўстаць ня толькі Расея, але і, варта чакаць, Нямеччына. Дык тым больш такі сход неабходны, і я думаю, што раней ці пазней гэта адбудзецца.

Ідэя Цэнтральнай Эўропы ўжо даўно папулярызуецца ў Польшчы. У выпадку падпісаньня палітычнае літоўска-польскай дамовы, што гарантавала б добрасуседзтва, у нас не засталося б сур'ёзных пярэчаньняў супраць гэтае ідэі. Найлепш было б ажыцьцяўляць яе разам — лепш і для Летувы, і для Украіны. А да таго часу летувісам і ўкраінцам неабходна як след разгледзець свае пазыцыі ды знайсьці агульны інтарэс дзеля Цэнтральнай Эўропы.

*Lietuvos Rytas*

---

*Рамуальдас ОЗАЛАС (54 гады) — дэпутат Сэйма Летувы, Старшыня партыі Цэнтра. Узначальвае Дзяржаўную камісію на перамовах з Расеяй.*

*Былы Віцэ-старшыня «Саюдзіса». Быў народным дэпутатам СССР, дэпутатам ЛССР і Летувіскай Рэспублікі.*

*Прыйшоў у палітыку зь Віленскага ўнівэрсытэту, дзе выкладаў гісторыю філязофіі.*

# ЗАСТАНЕМСЯ “БЕЛЫМІ РАСЕЙЦАМІ”?

**Нядаўна ў рэдакцыю трапіла даволі цікавая кніга, выдадзеная ў ЗША. Гэта гід-дапаможнік для амэрыканскіх і брытанскіх турыстаў, якія зьбіраюцца наведаць СНД і краіны Балтыі.**

Выданьне зусім сьвежае, 1993 года. Такія кніжкі вельмі папулярныя на Захадзе, бо значна дапамагаюць турыстам падчас падарожжаў, даючы ім самую разнастайную інфармацыю пра гісторыю, культуру, турыстычныя славутасьці шмат якіх краінаў сьвету. Таму, натуральна, мяне зацікавіла, якую інфармацыю пра Беларусь атрымліваюць звычайныя амэрыканцы і брытанцы перад паездкай у СНД.

Першае, што кідаецца ў вочы пры азнаямленьні з дапаможнікам, гэта, вядома ж, яго назва, якая, мякка кажучы, не адпавядае зьместу. Ён называецца «Расея і краіны Балтыі», хоць там даецца інфармацыя і пра краіны Сярэдняе Азіі, Каўказа, а таксама Украіну ды Беларусь. Мусіць, старое ўяўленьне амэрыканцаў пра тое, што ўся тэрыторыя, якую некалі займаў Савецкі Саюз, называецца Расеяй, аказалася даволі трывалае і жывучае. І калі балтыйскія краіны ўжо скінулі зь сябе гэтую брыдкую мянушку і прымусілі паважаць сваю адметнасьць, дык Беларусь гэтага, на жаль, яшчэ не заслужыла. Таму і фігуруе яна ў амэрыканскім даведніку толькі ў разьдзеле «Эўрапейская Расея ды Беларусь», дзе ёй адведзеная роля транзытнага маршруту з Польшчы ў Маскву.

Апісаньні беларускіх гарадоў, разьмешчаных уздоўж магістралі Берасьце-Смаленск, стракацяць назвамі мінулай эпохі: Савецкі, Ленінскі, Камсамольскі і г.д. У Кобрыне турыстам, як і раней, раяць наведаць музэй Суворава, у Баранавічах — зірнуць на помнік Сяргею Грыцаўцу, «двойчы герою Савецкага Саюза, забітаму падчас расейска-японскае вайны 1939 г.» У разьдзеле пра Менск увагу заходніх наведнікаў зьвяртаюць, натуральна, на помнік Леніну, які стаіць «перад велізарным урадавым будынкам, найбуйнейшым і найвышэйшым збудаваньнем у горадзе» (?!). Рэкамэндуецца таксама паглядзець на мэмарыял ахвяраў менскага гета «з надпісамі на ідыш і па-расейску, які, згодна з інфармацыяй тэль-авіўскага музэю, зьяўляецца адзіным помнікам такога кшталту ва ўсім былым СССР». Пра Хатынскі мэмарыяльны комплекс у даведніку напісана, што «ўзьнесены ён быў у 1969 г. з прапагандысцкай мэтай: адцягнуць увагу ад Катыні, дзе саветы зьнішчылі тысячы польскіх афіцэраў».

Ёсьць у кніжцы й даволі цікавы разьдзел «Народы Садружнасьці», дзе даюцца кароткія характарыстыкі народаў, якім «пашчасьціла» жыць у савецкай імпэрыі. Трэцімі ў сьпісе (вядома ж, пасьля расейцаў і ўкраінцаў) ідуць беларусы. Аўтар гэтага разьдзелу, нейкі Джордж Шёпфлер, піша, што мы з вамі вельмі падобныя да ўкраінцаў, толькі нават яшчэ больш рускія. Вось цалкам цытата з кніжкі:

«Беларусаў нашмат меней, чым украінцаў; яны ня здолелі разьвіць пачуцьця нацыянальнае адметнасьці; яны пераважна застаюцца ў вёсцы і размаўляюць на сваёй мове дома. У грамадзкіх месцах, прынамсі ў гарадах, яны прынялі расейскую мову. Тут напрошваецца параўнаньне зь нямецкамоўнай часткай Швайцарыі, чые насельнікі размаўляюць дома на Swytzerdutsch, а прылюдна — на літаратурнай нямецкай мове.

Увогуле сьціпласьць беларускіх нацыянальных намаганьняў падсумавана ў лёзунгу першага беларускага выдавецтва, заснаванага ў 1906 г.: «Загляне сонца і ў наша ваконца». Само іх найменьне, якое перакладаецца як «белыя расейцы», сьведчыць, што беларусы — ня болей чым адгалінаваньне ўласна расейцаў».

Напрыканцы нататкі пра беларусаў сп.Шёпфлер падводзіць рысу: «Шмат у чым беларусы — гэта найлепшае дасягненьне савецкай нацыянальнай палітыкі. Беларуская нацыя існуе, і сваё існаваньне яна прывыкла выказваць на мове «савецкага чалавека», г.зн. па-расейску».

Я думаю, што нам ня варта залішне папракаць амэрыканцаў за гэтыя радкі, бо бальшыня напісанага — гэта праўда, хоць і непрывабная. Застаецца хіба што, перафразаваўшы вядомае выслоўе, сказаць: «Кожны народ заслугоўвае таго, як да яго ставяцца». І толькі ад нас з вамі залежыць, ці пачнуць іншыя народы нас успрымаць паважна, ці мы так і застанемся ў іхных вачах «белымі расейцамі».

**Віктар ЛУК'ЯНАЎ**

# Касьцельнае пытаньне

Дзеяньні польскай каталіцкай царквы на Беларусі зьяўляюцца істотнаю падтрымкай ў культурным і адукацыйным пляне выключна каталіцкай польскай меншасьці. У выніку таго, што сьвятары, якія прыязджаюць з захаду, выхаваньне душаў разглядаюць яшчэ і як пытаньне патрыятызму, яны ўспрымаюць сваю дзейнасьць як нацыянальную справу, як умацаваньне «пальшчызны» на Беларусі і клопат аб вяртаньні да сваіх каранёў значнай зрусыфікаванай часткі польскага насельніцтва. Яны робяць гэта перш-наперш праз ужываньне падчас набажэнстваў польскай мовы. У Менску і Маскве з гэтае нагоды гавораць пра палянізацыю.

На Беларусі жыве каля 800 тыс. каталікоў, у асноўным на захадзе краіны. 16 красавіка 1991 г. Папа Рымскі абвясьціў аб стварэньні новай каталіцкай правінцыі на Беларусі, якая складаецца зь епархіі Менск—Магілёў, епархіі Пінск і нанова створанае епархіі Горадня. На чале іх быў пастаўлены Казімір Сьвёнтак, былы генэральны вікарый епархіі Пінск. Абвінавачваньні ў палянізацыі каталікоў былі выказаныя ўжо ў 1990 г. і нагадваюць пра падзеі на Украіне ў той жа самы час. Іх распалілі дзеяньні польскіх сьвятароў, якім беларускі ўрад даў дазвол прыехаць на Беларусь для духоўнага выхаваньня, і былі пазьней падагрэтыя шляхам прызначэньня на пасаду беларускага епарха паляка. У лістападзе 1991 г. Беларускі Народны Фронт папрасіў Папу прыслаць на Беларусь сьвятароў любой нацыянальнасьці, абы не палякаў. Такое ж пажаданьне выказаў Старшыня парляманту Беларусі Станіслаў Шушкевіч. На сустрэчы з польскімі парлямантарыямі ён заявіў у траўні 1992 г., што каталіцкая царква на Беларусі жадае кантактаў са сьвятым прастолам, але толькі праз польскі эпіскапат.

Для беларускага кіраўніцтва было б пажадана, каб сьвятары, якія едуць на Беларусь з Польшчы, маглі казаць набажэнствы па-беларуску, але яно не выключае выкарыстаньня польскай мовы ў выпадках, калі літургія і духоўная літаратура яшчэ не перакладзеная на беларускую мову. Такія ж цяжкасьці мае і праваслаўная царква на Беларусі, але расейскую мову тут разумеюць усе. Прымаецца да ўвагі і тэндэнцыя, на якой — польскай ці беларускай — мове жадаюць чуць набажэнства вернікі, тады ўжо справа за сьвятаром. Бо незадаволенасьць беларускіх каталікоў гэткім становішчам расьце. Падобныя патрабаваньні выказвае і ўласная беларуская каталіцкая іерархія. У Горадні навучаньне прыстараў вядзецца ўжо на дзьвюх мовах, першыя пераклады рэлігійнай літаратуры і частак Сьвятога Пісаньня ўжо існуюць. Ужо замоўленыя першыя пераклады на беларускую мову таксама і з боку праваслаўнае царквы.

*Osteurora №9,1993*

# Цывілізавана ў бездань?

У параўнаньні з большасьцю краінаў былога СССР эканамічная палітыка Беларусі найбольш марудна падвяргаецца рэфармаваньню. У той час, калі супраць гэтага рашуча выступаюць як самыя шырокія колы Апазыцыі, так і Міжнародным валютны фонд, марудны тэмп рэформаў, на думку Старшыні парляманту Шушкевіча, абумоўлены тым, што палітычнае кіраўніцтва краіны іх не жадае. «Мы ня хочам хутчэй разбурыць старое, чым пабудаваць новае. Наш закон аб прыватызацыі быў амаль што гатовы — ён падобны на адпаведныя законы ў суседніх рэспубліках. Але мы ўбачылі, яе кепска ён спрацаваў у нашых суседзяў, і таму вырашылі ўнесьці ў яго пэўныя карэктуры. Мы ня маем права зараз разбураць літаральна ўсё».

У параўнаньні з Расейскай Фэдэрацыяй падставы для рынкавай трансфармацыі на Беларусі больш рэальныя. Істотнай перавагаю зьяўляецца тое, што на Беларусі, у адрозьненьне ад іншых былых савецкіх рэспублікаў, няма міжэтнічных канфліктаў, хіба толькі польская меншасьць стварае ў заходніх абласьцях адносны фактар дэстабілізацыі. Але нават ад апазыцыйных партыяў і груповак не зыходзіць належнага рэфарматарскага ціску. Нават асноўныя пытаньні, такія як увядзеньне нацыянальнай канвэртаванай валюты, вызначэньне ступеню дзяржаўнага рэгуляваньня, лібэралізацыя коштаў, прынцыпы прыватызацыі і структурнай перабудовы эканомікі, застаюцца без належнае ўвагі. Стаўка робіцца на захаваньне палітычнай стабілізацыі і разважлівасьці, чаго палітычнае кіраўніцтва да гэтага часу ня выкарыстала, каб зрабіць першыя рэфарматарскія крокі.

*Osteurora №9, 1993*

---

***Osteurora (Усходняя Эўропа)** — нямецкі штомесячны часопіс, які аналізуе актуальныя пытаньні Усходу.*

# Беларускія мытнікі атрымалі новую мянушку: «каўбасьнікі»

Карэспандэнт польскай газэты Polska Zbrojna дзеліцца сваімі ўражаньнямі пра перасячэньне польскай усходняй мяжы.

### Агароднікі — канец сьвету

Падчас падарожжа па прыгранічных раёнах Польшчы мы не маглі абмінуць памежнага пераходу Агароднікі—Лаздзіяй (Летува). Нам хацелася пераканацца на ўласнай скуры, наколькі праўдзівыя тыя шматлікія апавяданьні пра зьбіваньні, рабаваньні і крадзяжы, што перадаюцца з вуснаў у вусны. Жыхары памежных вёсак і мястэчак цьвердзілі нам: «На шчасьце, бальшыня падарожнікаў не затрымліваецца тут і пасьпешліва кіруецца ў глыб краіны».

Чым бліжэй да мяжы, тым часьцей мы натраплялі на аўтамабілі, што імкліва пераадольвалі апошні адрэзак прыгранічнае трасы. Нам захацелася правесьці экспэрымэнт. Мы распачалі пагоню за чырвоным «Audi».

Напалоханы кіроўца заўважыў хвост ужо праз некалькі хвілінаў. Каб адарвацца, ён пачаў абганяць усе машыны. Урэшце, даведзены да роспачы, ён збочыў з трасы і адарваўся ад нас у Сэйнах. Праз паўгадзіны мы яго зноў пабачылі ўжо ў чарзе на пераход у Агародніках. На наша шчасьце, перад гэтым мы пакінулі сваё аўто пад апекай аднога фэрмэра. Уладальнік «Audi» з запалам апавядаў пра свае прыгоды калегам, якія не былі падобныя да людзей безабаронных і бездапаможных.

### Праблемы памежнікаў

Пераход у Агародніках быў разьлічаны на пропуск 20.000 асобаў у месяц. Але з 1989г. праз пераход мяжу перасякае ў сярэднім 300.000 чалавек. Галоўныя праблемы, зь якімі мусяць змагацца памежнікі, — гэта кантрабанда (найперш тытуню і алкаголю), перакіданьне за ўсходнюю мяжу крадзеных (часта па-за межамі Польшчы) аўтамабіляў, нелегальнае перасячэньне мяжы, пераважна асобамі з такіх краінаў, як Індыя, Віетнам, Афганістан, Пакістан.

Памежная варта часта дзейнічае інтуітыўна. Недахоп людзей не дазваляе праводзіць дакладнага кантролю ўсіх падарожнікаў, што зарабляюць на кантрабандзе. Аўтамабільная мафія вельмі рэдка трапляе на кручок памежнікаў. Пераважна на гарачым учынку хапаюць аматараў. Вялікую палёгку супрацоўнікам пагранічнай варты прынесла адкрыцьцё перахода ў Будзісках. Зараз там езьдзяць TIRы, наладаваныя самым разнастайным таварам. Памежнікі спадзяюцца, што больш не паўторыцца выпадак, які адбыўся сёлета ў жніўні, калі з кантэйнэра TIRa выцягнулі дваццаць страшэнна змораных пакістанцаў.

Супрацоўнікі пагранічнай службы мяркуюць, што ўсталяваньне брамаў для выкрыцьця радыёактыўных мэталяў значна зьменшыла рызыку ўвозу ў Польшчу гэтых небясьпечных рэчываў.

### Непераможны «Orient Express»

Іншага тыпу зьмены можна заўважыць на летувіска-беларускай мяжы. Аўтамабільны рух і падарожжы «Orient Express»ам — цягнікам Вільня—Віцебск — з даўняга часу зьяўляюцца галоўным спосабам перамяшчэньня паміж гэтымі краінамі. У пераважнай большасьці сталыя пасажыры «Orient Express»а — гэта асобы, якія маюць на тэрыторыі Беларусі сваякоў, што жывуць на вёсцы. Яны вязуць у Летуву прадукты харчаваньня. Летувіскія мытнікі ведаюць, што кантрабандай у буйных маштабах займаюцца прафэсіяналы. Летувіская памежная варта спраўджвае толькі пашпарты і ні ў кога нічога не забірае. Беларусы ж ахвотна корпаюцца ў бульбе і каўбасах, шукаючы невядома што. Напалоханыя пасажыры, бальшыня зь якіх ніколі не была за мяжой, часам не прызнаюцца, што тавары належаць ім, і беларускія мытнікі выходзяць з вагонаў, выносячы з сабой сеткі з хатнімі сырамі або торбы зь нічыйнай каўбасой.

Інтэлігенцыя ў першым пакаленьні, якая жыве ў Летуве, часта езьдзіць на Беларусь да сваіх бацькоў. Гэтыя людзі з жахам чакаюць увядзеньня візаў, бо гэта зробіць немагчымымі такія візыты. Складанай справай зьяўляецца таксама атрыманьне дазволу на вываз сельгаспрадуктаў. Дазвол можна атрымаць у аддаленых пунктах Беларусі, але людзі ня маюць часу на такія падарожжы. Кожны згодны рызыкнуць, і большасьці ўдаецца прывезьці штосьці сабе без дазволу.

Для кантрабандыстаў увядзеньне мытнага кантролю на летувіска-беларускай мяжы ўвогуле ня ставіць ніякіх праблемаў. Каляровыя мэталі, якія вялікімі партыямі перавозяцца ў Латвію, усё яшчэ застаюцца найважнейшай і самай даходнай крыніцай прыбытку. Нездарма самі беларусы кажуць: «Не адзін дамок або віла, пабудаваныя апошнім часам, стаяць на каляровых мэталях».

**Гелена ФЕДАРЦОВА**

## Бывай, правадыр!

**У Латвіі дэмантаваны апошні помнік Леніну.**

Зусім нядаўна ён яшчэ красаваўся ў Екабпілсе. Гарадзкія ўлады доўга ламалі галаву — што ж рабіць? Узьнікла нават задума стварыць «застойны парк», але пасьля ўсё ж такі вырашылі разьвітацца зь Леніным назаўсёды. Газэта паведамляе, што помнік быў даволі «цяжкім» — адна галава важыла... тону. Цяпер на тэрыторыі Латвіі не засталося аніводнага помніка правадыру пралетарыяту.

**Зь Летувы**

## Нафтавыя пэрспэктывы

Як паведаміў дырэктар Летувіскай дзяржаўнай геалягічнай службы Гедымінас Мотуза, у краіне ўжо адкрыта 19 радовішчаў нафты. Мяркуецца, што агульныя запасы на мацерыку складаюць 140 мільёнаў тон, у моры — больш за 122 мільёны. У сярэднім кожная сьвідравіна месьціць 39 тысяч тон, што амаль на 10 тысяч тон больш, чым у ЗША. За год у Летуве можна здабываць да 1-1,5 мільёна тонаў якаснай нафты. Агульная патрэбнасьць краіны — 5-6 мільёнаў.

## Малыя электрастанцыі

Хоць урад і не падтрымлівае ідэі будаўніцтва малых электрастанцыяў, тым ня менш пад уплывам францускіх спэцыялістаў летувіскае дзяржаўнае прадпрыемства «Гідрапраект» мае намер у бліжэйшы час збудаваць каля 200 малых станцыяў на рэках і рачулках Летувы. Яны будуць даваць каля 5 працэнтаў патрэбнай краіне электраэнэргіі. Адна з умоваў рэнтабэльнасьці — прыватызацыя гэтых станцыяў.

## Выдаткі

Дэпартамэнт статыстыкі апублікаваў найноўшыя зьвесткі пра выдаткі сярэднестатыстычнай летувіскай сям'і. 60% свайго месячнага бюджэту такая сям'я траціць на харчы. Штодня гараджанін праядае ў сярэднім 2,56 літа (2/3 даляра), а вясковец — 1,78.

Да пачатку ацяпляльнага сэзону выдаткі сям'і на камунальныя паслугі складалі 14%. Але мяркуецца, што з пачаткам апалу кватэр яны ўзрастуць у 3-4 разы.

Не зьмяняюцца сродкі, вытрачаныя на алкаголь, — 1,6%. Найменш грошай ідзе на культурныя патрэбы: сумы настолькі мізэрныя, што Дэпартамэнт статыстыкі іх нават не называе.

Сярэднія выдаткі аднаго члена сям'і ў Летуве складаюць 119 літаў (33 даляры) на месяц.

## Вільня адмаўляецца ад пасярэдніцтва Масквы

Віцэ-міністр замежных спраў Летувы А.Янушка заявіў, што ягоная краіна ня згодная атрымліваць ад Нямеччыны кампэнсацыю ахвярам нацызму, калі пасярэднікам гэтага працэсу будзе Расея. Летува магла б адрэгуляваць пытаньні кампэнсацыяў шляхам двухбаковых перамоваў. Як вядома, ФРГ, Расея, Беларусь і Украіна дасягнулі згоды адносна выплаты кампэнсацыі грамадзянам былога СССР, якія пацярпелі ад фашысцкага рэжыму. У сваю чаргу Расея заявіла пра выплату кампэнсацыяў былым савецкім грамадзянам у Летуве. Гэтая заява і выклікала нязгоду летувіскіх палітыкаў, бо да Расеі — праваераемніка савецкага акупацыйнага рэжыму — у іх ёсьць свае рахункі.

**Андрэй КОРСАК,**
**уласны карэспандэнт БелаПАН у Вільні**

## Кампутарная вайна — ужо ня проста фантастыка

**Расея стварыла кампутаровую сыстэму, якая без умяшаньня чалавека можа распачаць і весьці ядзерную вайну, паведамляе адзін з галоўных экспэртаў у ваенных праблемах Расеі амэрыканец Брус Г.Блэйр**

Газэта «New York Times» зьмясьціла ягоны артыкул, дзе аўтар сьцьвярджае, што кампутаровая сыстэма была створаная на той выпадак, калі б кіраўнікі расейскае арміі загінулі або ня мелі змогі аддаваць загады.

Кампутары самі па сабе могуць запускаць ядзерныя ракеты ды ўводзіць у дзеяньне вайсковыя сілы, разьмешчаныя за тысячы кілямэтраў. Сыстэма ўключаецца ў крызысны пэрыяд і пачынае дзейнічаць, калі будзе зафіксаваная ядзерная атака супраць Масквы.

Цэнтральнае разьведвальнае ўпраўленьне ЗША і Пэнтагон адмовіліся пракамэнтаваць паведамленьне, аднак кіраўнік разьведкі ў адміністрацыі Дж.Буша Робэрт М.Гатэс заявіў, што Расея стварыла шмат такога, пра існаваньне чаго амэрыканцы нават і не здагадваліся.

У артыкуле гаворыцца, што ЗША таксама маюць кампутаровую сыстэму, якая можа самастойна распачаць ядзерную вайну. У яе менш мажлівасьцяў, чымся ў расейскай, аднак доступ да яе мае большая колькасьць людзей.

## Надрукавана ўпершыню

**Незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналогія» прапануе свае чарговыя выданьні — «Ангельска-Беларускі» і «Беларуска-Ангельскі» слоўнікі вядомага дзеяча нашай эміграцыі з ЗША Яна Пятроўскага.**

Тыя, хто ўважліва сочыць за дзейнасьцю выдавецтва, ведаюць, што ўжо больш за год «Тэхналогія» выдае і распаўсюджвае на Беларусі і за яе межамі фактычна адзіны англамоўны часопіс пра нашую краіну «Беларускі Агляд», газэту беларускай эміграцыі «Беларус». За кароткі час выдавецтва выпусьціла ў сьвет вельмі неабходныя зараз слоўнікі — «Расейска-Беларускі хімічны», «Расейска-Беларускі фізыялягічны», «Расейска-Беларускі вайсковы», грунтоўную рэлігійную працу на роднай мове «Будслаў — сьвятыня Беларусі», першую кнігу Анатоля Кудласевіча «Плакун-трава». І вось — слоўнікі Пятроўскага.

Хто ж такі Ян Пятроўскі? Пісьменьнік, навуковец, нарадзіўся ў Слуцку, пасьля гістарычных віхураў дзьвюх сусьветных войнаў жыў у Нямеччыне, Аўстрыі... Ужо доўгі час ён жыве ў ЗША, у штаце Флярыда, і ў свае амаль 90 гадоў зьяўляецца Прэзыдэнтам адукацыйна-харытатыўнага Фонду Яна і Аліцыі Пятроўскіх, галоўная мэта якога — інфармаваньне сьвету пра Беларусь, спрыяньне разьвіцьцю беларускай мовы і культуры, пашырэньне нацыянальнага друкаванага слова. Ян Пятроўскі — аўтар «Клясычнага грэцка-беларускага слоўніка», укладальнік шырокавядомага двухтомніка «Лепшыя думкі чалавека», перакладчык на родную мову «Выбраных дыялёгаў» Плятона, «Унівэрсальнай Дэклярацыі правоў чалавека» і цэлага шэрагу іншых кнігаў.

Слоўнікі Пятроўскага, паводле водгукаў спэцыялістаў з інстытута замежных моваў, па сваім зьмесьце ўнікальныя. Яны налічваюць звыш 10 тыс. тэрмінаў. Аўтар, як і належыць, прытрымліваецца тарашкевіцы. Слоўнікі будуць карыснымі ўсім, хто вывучае ангельскую мову, навукоўцам, філёлягам, студэнтам, жыхарам англамоўных краінаў, якія распачынаюць вывучэньне беларускай мовы. Выданьне ня менш важнае і ў пляне вяртаньня вялізарнага навуковага, культурнага і этнаграфічнага пласту нашае гісторыі, які ўмяшчаецца ў адным толькі слове — «эміграцыя». Менавіта таму мы стараліся ўносіць у яго як мага менш правак дзеля захаваньня трагічнага духу нашай нацыянальнай гісторыі.

Ян Пятроўскі выдаў свае слоўнікі ў 1946 г. у Аўстрыі. На Беларусі ж яны друкуюцца ўпершыню і вельмі абмежаваным накладам — усяго 2 тыс. асобнікаў. Папярэдні кошт двух слоўнікаў, зьмешчаных у адной кнізе, — 1.500 руб. (кошт на канец лістапада 1993г., калі выданьне ўбачыць сьвет).

Усе згаданыя кнігі НВК «Тэхналогія» выдала на Беларусі ўпершыню.

Папярэднія замовы накіроўвайце, калі ласка, на адрас: *220007, Беларусь, Менск, вул.Магілёўская, 43, офіс 104, НВК «Тэхналогія». Тэл./факс (0172) 21-77-40.*

**Вацлаў БАГДАНОВІЧ,**
**прэзыдэнт НВК «Тэхналогія»**







Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 23.11.93. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 1687 Наклад 20 000.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12